МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ "ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

№ 10 (162)
кастрычнік 2015

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## У НУМАРЫ:

### КОНКУРС ПРАЦАЎ ПРА БЕЛАРУСКАЕ ЗАМЕЖЖА

Каб разумець, якімі праз суродзічаў за мяжой нас бачыць свет, і з нагоды свайго юбілею Згуртаванне "Бацькаўшчына" абвяшчае конкурс працаў, прысвечаных гісторыі і сучаснасці беларускага замежжа.

*Чытайце на стар. 3*

### ЯК ДЗІСЕНКА-РЭЧКА ЎПАЛА Ў АТАВУ-РАКУ

У серыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны" пабачыла свет новая, 27-я кніга, – збор твораў Пятра С. Мурзёнка "Адвечныя плыні".

*Чытайце на стар. 6*

### "ГІСТОРЫЯ ПАВАЕННАЙ РАДЫ БНР ЦЯПЕР НАПІСАНАЯ"

У серыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны" выйшаў трэці том дакументаў беларускага ўраду ў выгнанні.

*Чытайце на стар. 6*

### У НЬЮ-ЁРКУ АДЗНАЧЫЛІ 65-ГОДДЗЕ ГАЗЕТЫ БЕЛАРУСАЎ ЗША

25 кастрычніка свой 65-гадовы юбілей адзначала газета беларускай дыяспары ў Амерыцы — "Беларус".

*Чытайце на стар. 7*

ЮБІЛЕЙ

## НЯХАЙ ЖЫВЕ "БАЦЬКАЎШЧЫНА"!

10 верасня Згуртаванню беларусаў свету "Бацькаўшчына" споўнілася 25 гадоў. З гэтай нагоды чарговы сход Малой Рады Згуртавання, які прайшоў 22 кастрычніка, адбываўся ва ўрачыстай атмасферы ў мінскай кавярні "Netto".



Сход адкрывалі кіраўнік арганізацыі Алена Макоўская і старшыня Рады Ніна Шыдлоўская, якія адзначылі, што за 25 гадоў "Бацькаўшчына" прайшла складаны шлях, тым не менш, арганізацыя захавалася і актыўна дзейнічае, і надалей выконваючы сваю мэту – кансалідуе беларусаў і ў краіне, і па-за яе межамі на глебе павагі да гісторыі, культуры і мовы, умацоўвае сувязі Беларусі з яе дыяспарай. Сябры Рады з цікавасцю заслухалі справаздачу пра бягучую дзейнасць арганізацыі, яе дасягненні за апошні год і адносна працы з беларускай дыяспарай, і ў межах кампаніі "Будзьма беларусамі!". Асаблівую ўвагу звярнулі на 29 кніг, якія былі выдадзены ў серыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны" цягам апошніх 11 гадоў — унікальныя зборы твораў дыяспары і даследаванні яе жыцця. Кожная з гэтых кніг – своеасаблівая крыніца інфармацыі для даследчыкаў жыцця і дзейнасці беларусаў замежжа. І асаблівая заслуга ў выхадзе гэтай серыі належыць Наталлі Гардзіенка і Лявону Юрэвічу, нястомным даследчыкам і сябрам "Бацькаўшчыны".

Афіцыйная частка пасяджэння скончылася хвілінай маўчання, якой прысутныя аддалі даніну памяці тым, з кім развіталіся сёлета.

У цёплай і нязмушанай атмасферы сябры Рады дзяліліся сваімі ўспамінамі пра стварэнне "Бацькаўшчыны", пра светлыя і радасныя падзеі, пра складанасці і чаканні, абменьваліся думкамі пра будучыню.

Натхненнем, узрушэннем, шквалам шчымлівых пазітыўных эмоцый стала музычнае віншаванне напрыканцы імпрэзы ад музыкі Змітра Вайцюшкевіча, які ўпрыгожыў вечар песнямі на словы беларускіх паэтаў.

*Паводле Інфармацыйнага цэнтра МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*
*Цалкам чытайце на zbsb.org*

### ЮБІЛЕЙНАЯ АПЫТАНКА "БАЦЬКАЎШЧЫНЫ"

Да свайго 25-гадовага юбілею Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" ладзіць бліц- апытанне сяброў. Адказы некаторых з іх вы ўжо можаце знайсці на сайце zbsb.org. Далучайцеся і вы!

1) Які найбольш уражвальны момант вы можаце згадаць з тых часоў, калі паўставала "Бацькаўшчына"?

2) Знаёмства з якімі людзьмі ў кантэксце тых падзеяў стала для вас знакавым і чаму?

3) Пералічыце тры найбольш важныя, на ваш погляд, дасягненні "Бацькаўшчыны".

4) Якія тры рэчы, на вашую думку, варта зрабіць "Бацькаўшчыне" ў сучасных умовах для ўмацавання нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў?

Свае адказы дасылайце на адрас zbsb.minsk@gmail.com.

*Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## ГАННА СУРМАЧ: “БАЦЬКАЎШЧЫНА” ЗРАБІЛА БЕЛАРУСАЎ НАЦЫЯЙ СУСВЕТУ

Ганна Сурмач, сябра Рады Згуртавання, а ў 1993-2001 гадах старшыня Рады – пра шлях Згуртавання з нагоды яго 25-годдзя.



Некалі ў раннім юнацтве, чытаючы Караткевіча, я была ўражаная тым эпізодам, калі герой ягонага твора трапляе ў пустыню і ўспамінае пад бязлітасным сонцам пра сваю далёкую Радзіму Беларусь з яе рэкамі і крыніцамі. Тады ўпершыню прыйшло разуменне, што беларусы жывуць не толькі ў Беларусі. Цяпер гэта выглядае дзіўна, што мы нічога не ведалі пра сваіх суродзічаў у свеце. Але ў той час, выхаваныя ў поўнай ізаляцыі ад свету, мы не задумваліся над гэтым пытаннем. Відаць, з таго часу пачало яно цікавіць мяне асабіста, а потым праз доўгія гады сталення і самастойнай працы стала маім жыццёвым наканаваннем.

Сёння я з радасцю прыпамінаю тыя часы новага беларускага Адраджэння, калі мы стварылі наша Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына”. На той час мы ўжо шмат што ведалі пра нашых суродзічаў у замежжы, пачыналіся першыя кантакты, сустрэчы. І ўрэшце выразна паўстала пытанне аб арганізацыйным афармленні працы з замежнымі беларусамі. Усё больш выразна мы пачалі бачыць, што па-за межамі жыве значная частка беларускай нацыі, што лік ідзе на мільёны. Прыйшло асэнсаванне гэтай з’явы як вялікай трагедыі Беларусі, якая на сваім гістарычным шляху страціла вельмі шмат чалавечага патэнцыялу. (…)

Сама ідэя прызнання наяўнасці беларускай эміграцыі ў свеце і стварэння Згуртавання беларусаў свету дзеля падтрымання пастаяннай сувязі краіны-маці і яе дыяспары была вялікім крокам у развіцці беларускай нацыі, які стаў магчымым з пачаткам нацыянальнага Адраджэння. І гэтая ідэя была паспяхова рэалізавана ў 1990 годзе, калі мы – беларусы з Бацькаўшчыны і з замежжа – сабраліся разам у Доме літаратара і абвесцілі пра стварэнне новай арганізацыі. Так была адкрытая зусім новая старонка ў гісторыі краіны.

У той час высокай грамадскай актыўнасці стваралася шмат новых арганізацый, да сённяшняга дня дажылі нямногія. Сярод іх і Згуртаванне “Бацькаўшчына”. Арганізацыя можа з гонарам адзначаць свой 25-гадовы юбілей. Яна паспяхова выконвае сваю ролю – гуртаваць беларусаў па ўсім свеце. Перажыта шмат выпрабаванняў, цяжкасцяў, стратаў, як і раней, няма дастатковай падтрымкі з боку беларускай дзяржавы праз палітычную сітуацыю ў краіне. Але ёсць адказныя людзі, якія нясуць на сабе ўвесь цяжар гэтай працы, не здраджваюць ідэі, робяць што могуць, каб трымаць сувязі з беларускім замежжам.

Немагчыма пералічыць тут усіх, хто спрычыніўся да стварэння і дзейнасці ЗБС. Кожнага з вас, дарагія мае сябры і паплечнікі, успамінаю з вялікай цеплынёю і ўдзячнасцю за тое, што давялося быць побач з вамі ў такой важнай і адказнай дзейнасці на карысць нашай беларускай нацыі.

Галоўны вынік нашай сумеснай працы – стварэнне сусветнай беларускай супольнасці, якая жыве ўжо сваім самастойным жыццём, і перапыніць гэты працэс немагчыма. Беларусы з розных краінаў кантактуюць між сабою, сустракаюцца, супрацоўнічаюць, трымаюць сувязь з Бацькаўшчынаю. Цяпер ужо відавочна, што жыццёвая прастора беларускай нацыі не абмяжоўваецца геаграфічнымі рамкамі Беларусі. Беларусы жывуць у бальшыні краінаў свету, на ўсіх кантынентах. І не проста жывуць, а ствараюць адзіную супольнасць, якая ёсць беларускай нацыяй, прысутнай у сусвеце.

Сваю кнігу пра беларускую эміграцыю ў розных краінах я назвала “Беларусь без межаў”. Вось менавіта такою сталася наша краіна, дзякуючы ў першую чаргу дзейнасці Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына”.

*Паводле Ганны Сурмач, Нью-Ёрк*

***Чытайце таксама на zbsb.org допіс Янкі Запрудніка да юбілею Згуртавання***

НАВІНЫ “БУДЗЬМА!”

## ЯК БІБЛІЯТЭЦЫ ВЫЙСЦІ З ЦЕНЮ?

“Кніга як звычка: прафесійныя сакрэты павышэння культуры чытання беларусаў” — так гучала тэма новай публічнай дыскусіі, якую правяло Згуртаванне “Бацькаўшчына” ў межах кампаніі “Будзьма беларусамі!” у Мсціслаўскай цэнтральнай раённай бібліятэцы. Публікай на сустрэчы сталі самі бібліятэкары горада і раёна, як эксперт выступіла супрацоўніца Навуковай бібліятэкі Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта Вольга Воўк.

“Як мы выбіраем кнігі? Якімі крытэрыямі кіруемся? Можна сцвярджаць, што высокую культуру чытання характарызуе перадусім усвядомлены выбар кніг, наяўнасць густу, зацікаўленасць сур’ёзнымі творамі мастацкай літаратуры, — пачала гутарку мадэратарка сустрэчы, рэгіянальны каардынатар кампаніі “Будзьма беларусамі!” Кацярына Раманчык. — Але што можа сфармаваць такую культуру і што для гэтага можа зрабіць бібліятэка сёння? Гэтыя аспекты дзейнасці сёння цікавяць многіх спецыялістаў, чыя праца звязаная з кнігай. Але мы прыехалі да вас не толькі з пытаннямі, але і з адказамі ад людзей, якіх лічым прафесіяналамі ў гэтай сферы“.

Як бібліятэцы пераасэнсаваць сваю ролю ў мясцовым адукацыйна-культурным жыцці? Адказаць на гэта паспрабавала Вольга Воўк: “Мы заўважылі, што бібліятэкі сталіцы паступова страцілі ролю “кніжных” месцаў. Прэзентацыі новых выданняў усё часцей праходзяць у кнігарнях і клубах, пляцоўкамі для сустрэчы аўтараў і чытачоў робяцца кавярні, а паэтычныя чытанні і ўвогуле выходзяць на вуліцы, перамяшчаюцца ў паркі горада. Таму сёння нам трэба не проста прываблівацць публіку, але і “адваёўваць” яе ў гэтых новых модных месцаў. Нашы пляцоўкі і ўмовы не горшыя, трэба толькі правільна іх прадставіць, паказаць, самім пайсці да чытачоў“.

І праўда, калі сталічным бібліятэкам даводзіцца не толькі прываблівацць чытачоў, але і канкураваць з іншымі ўстановамі, арганізацыямі, якія таксама працуюць на прапаганду кніг і чытання, то за бібліятэкамі ў рэгіёнах яшчэ захоўваецца ледзь не манапольная роля “пастаўшчыка” кніг. За публіку змагацца не трэба, трэба яе толькі разварушыць, прыцягнуць новых чытачоў, а самі бібліятэкі зрабіць культурнымі цэнтрамі, месцамі сустрэчы аднадумцаў. Менавіта ў гэтым і можа быць карысным сталічны досвед. Законы маркетынгу (у тым ліку бібліятэчнага) і рэкламы ўсюды спрацоўваюць аднолькава, варта толькі правільна іх выкарыстоўваць, прыстасоўваючы пад мясцовыя ўмовы.

*Паводле Марыны Весялуха для budzma.by*

## "БАЦЬКАЎШЧЫНА" АБВЯШЧАЕ КОНКУРС ПРАЦАЎ ПРА БЕЛАРУСКАЕ ЗАМЕЖЖА




Сёлета 10 верасня Згуртаванню беларусаў свету "Бацькаўшчына" споўнілася 25 гадоў.

Чвэрць стагоддзя Згуртаванне працуе дзеля кансалідацыі беларусаў незалежна ад месца пражывання на грунце любові да нашай супольнай гісторыі, культуры, роднай мовы.

Дасягненні беларусаў замежжа — неад'емная частка нашай супольнай гісторыі і сучаснасці, нашай культуры. Яны вартыя вывучэння і папулярызацыі.

Справы і творы народжаных у Беларусі мастакоў, пісьменнікаў, кампазітараў, палітыкаў, грамадскіх дзеячаў ды звычайных беларусаў ва ўсе часы ўплывалі і працягваюць уплываць на фармаванне ўяўленняў пра беларускую нацыю ў свеце.

А што самі жыхары сённяшняй Беларусі ведаюць пра нашых замежных суайчыннікаў?

***Каб разумець, якімі праз суродзічаў за мяжой нас бачыць свет, і з нагоды свайго юбілею Згуртаванне "Бацькаўшчына" абвяшчае конкурс працаў, прысвечаных гісторыі і сучаснасці беларускага замежжа.***

Да разгляду прымаюцца арыгінальныя аўтарскія тэксты навуковага, навукова-папулярнага, публіцыстычнага характару. Яны могуць быць прысвечаныя розным аспектам жыцця і дзейнасці беларусаў у замежжы, у тым ліку:

- біяграфіям пісьменнікаў, мастакоў, кампазітараў, палітыкаў, грамадскіх і іншых дзеячаў, чыё жыццё і творчасць звязаныя з замежжам;
- асэнсаванню творчай спадчыны дзеячаў беларускага замежжа;
- гісторыі масавых эміграцый, перасяленняў беларусаў за межы Беларусі;
- гісторыі або сучаснасці беларускай прысутнасці ў асобнай краіне;
- дзейнасці беларускіх дзяржаўных прадстаўніцтваў на Захадзе: Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, Беларускай Цэнтральнай Рады;
- дзейнасці асобных беларускіх арганізацый, суполак, калектываў, сродкаў масавай інфармацыі;
- сацыяльным, эканамічным, культурным аспектам існавання беларускага замежжа.

***У склад журы конкурсу ўваходзяць сябры Рады МГА "ЗБС "Бацькаўшчына":***

- Наталля Гардзіенка, гісторык, намеснік дырэктара БДАМЛМ,
- Лявон Юрэвіч, архівіст Нью-ёркскай публічнай бібліятэкі,
- др. Вітаўт Кіпель, старшыня БІНіМа,
- др. Янка Запруднік, сябра ўправы БІНіМа,
- Валеры Герасімаў, загадчык аддзелу старадрукаў і рэдкіх выданняў Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь, намеснік старшыні Рады МГА "ЗБС "Бацькаўшчына".

Да ўдзелу запрашаюцца як прафесійныя навукоўцы, так і аматары, як сталыя даследчыкі, так і пачаткоўцы з Беларусі і замежжа.

*Тэксты павінны быць раней не публікаваныя і напісаныя на беларускай мове.*

Па выніках конкурсу пераможцы атрымаюць каштоўныя ўзнагароды, а найлепшыя працы ўдзельнікаў будуць апублікаваныя.

Памер тэкстаў да 1 аўтарскага аркуша (каля 40 тысяч знакаў).

Дасылаць працы трэба ў электронным выглядзе з пазнакай "На конкурс" на адрас: zbsb.minsk@gmail.com да **1 студзеня 2016 г.**

*Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## КАЛЯНДАР "НЕ МАЎЧЫ ПА-БЕЛАРУСКУ – 2016" АД "БУДЗЬМЫ!"




Добра вядомы і доўгачаканы каляндар "Не маўчы па-беларуску!" ад кампаніі "Будзьма беларусамі!" на новы 2016 год ужо ў кнігарнях!

366 (бо 2016 – высакосны) адметных беларускіх словазлучэнняў у вясёлых малюнках мастачкі Дар'і Мандзік чакаюць вас пад новай вокладкай календара "Не маўчы па-беларуску!" ад "Будзьмы".

"Падобны каляндар на 2015 год быў вельмі станоўча ацэнены чытачамі. Пра гэта сведчыў высокі попыт на яго ў кнігарнях. Натуральна, нам прыходзілі просьбы яго перавыдаць. Вельмі прыемна, што і друкаваная, і мабільная версіі календара былі адзначаныя прафесійным журы на фестывалі "Аднак!" і атрымалі прызавыя месцы, – каментуе Алена Макоўская, каардынатар кампаніі "Будзьма беларусамі!". – Думаем, што сакрэт поспеху — і ў вясёлым, прывабным дызайне, і ў цікавай падборцы словаў, што надае календару і адукацыйны эфект. Наш каляндар і для дзяцей, і для дарослых! Таму мы вырашылі выдаць каляндар і на 2016 год, дапоўніўшы яго новымі цікавосткамі".

Адзначым таксама, што мабільная версія календара, якую спецыяльна для кампаніі "Будзьма беларусамі!" зрабіла і адаптавала на 2016 год Студыя Ігара Назаранкі, дасяжная для бясплатнага скачвання для iOS і для Android.

А друкаванае выданне ўжо можнацзнайсці ў беларускіх крамах і кнігарнях, у тым ліку ў наступных: **у Мінску** - "Акадэмкніга", кнігарня "логвінаЎ", крама "Symbal.by", "Кніжная шафа", "Кнігарня пісьменніка", "Веды", "Светач", "Цэнтральны кніжны", "Кнігі & кніжачкі", Кніжная выстава-кірмаш "Мир книг", "Эўрыка", этнакрама "Рагна"; **у кнігарнях рэгіёнаў** - "Светач" у Віцебску, "Праметэй" у Гародні, "Іскра" ў Берасці, "Кніжны свет" ў Лідзе, "Спадчына" ў. Маладзечне, "Дом кнігі" і "Усход" у Наваполацку, "Светач" у Полацку, "Крыніца" ў Салігорску, "Полымя" ў Пінску.

Шукайце таксама ў інтэрнэт-крамах ***knihi.by*** і ***imbryk.by***!

Не маўчым па-беларуску разам!

*Паводле budzma.by*

## ТРАДЫЦЫЙНАЕ ШЭСЦЕ Ў КУРАПАТЫ

1 лістапада ў Мінску прайшла традыцыйная акцыя, прымеркаваная да дня памяці продкаў "Дзяды". Прыкладна 300–400 чалавек узялі ўдзел у шэсці ад Мінскага гадзіннікавага завода да ўрочышча Курапаты – месца масавых пахаванняў ахвяр сталінскіх рэпрэсій.

Наперадзе калоны неслі тры крыжы, а таксама расцяжкі з надпісамі "Дзяды", "Курапаты – наш народны мемарыял", "Беларуская салідарнасць – наш супраціў расійскай акупацыі". Лунала шмат бел-чырвона-белых сцягоў.

У Курапатах адбыўся жалобны мітынг, які завяршыўся выкананнем гімна "Магутны Божа", пасля чаго ўдзельнікі акцыі ўсталявалі тры крыжы, якія неслі падчас шэсця.

*Паводле СМІ*

## ДЗЯДЫ Ў ВАРШАВЕ




Акцыі ў дзень памяці продкаў прайшлі ў Варшаве і іншых гарадах Польшчы.

Найбольш масавыя мерапрыемствы, прысвечаныя Дзядам, адбыліся ў Варшаве. У іх бралі ўдзел блізу 70 чалавек. Беларусы наведалі магілы суайчыннікаў на могілках "Павонзкі" ў польскай сталіцы.

У памятнай акцыі браў удзел лідар Кансерватыўна-хрысціянскай партыі БНФ Зянон Пазьняк. Палітык распавёў прысутным пра тое, як праходзілі першыя Дзяды ў савецкай Беларусі, нагадаў пра сімвалічнасць гэтага дня, з якога пачаўся масавы негвалтоўны супраціў камуністычным уладам.

На могілках "Павонзкі" пахаваныя восем нашых вядомых суайчыннікаў – кампазітар Станіслаў Манюшка, Марыя Ямант – нявеста Кастуся Каліноўскага, родапачынальнік беларускай фатаграфіі Ян Булгак, паэт Вінцэсь Каратынскі, стваральнік шматтомнай працы "Беларускі народ" Міхаіл Федароўскі, кампазітар Мечыслаў Карловіч, пісьменнік Тадэвуш Даленга-Мастовіч, вядомы польскі музыка Чэслаў Неман.

*Паводле "Беларускага Радыё Рацыя"*

## ДЗЯДЫ Ў ШВЕЦЫІ



Па традыцыі 1 лістапада сябры суполкі "Беларусы Швецыі" выправіліся на магілкі стакгольмскага прадмесця Густаўберг, дзе спачывае Васіль Лукашык (1911–1975 гг.) – выхаванец Віленскага ўніверсітэта, былы дзеяч Грамады і Таварыства беларускай школы, заснавальнік і кіраўнік першай беларускай суполкі ў Швецыі "Беларуская грамада" (1948–1975). Пасля супольнага ўпарадкавання помніка Андрэй Катлярчук апавёў пра жыццё спадара Лукашыка, а затым адбыўся невялікі памінальны абед.

*Андрэй Катлярчук*

## ДЗЯДЫ Ў НЬЮ-ДЖЭРСІ



У нядзелю 1-га лістапада ў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царкве Жыровіцкай Божай Маці ўХайленд-парку ў штаце Нью-Джэрсі адбылася агульная паніхіда па сябрах і сваяках вернікаў царквы, якія ўжо адышлі.

Пасля царкоўнай службы настаяцель парафіі айцец Зіновій Жалобак накіраваўся на царкоўныя могілкі ў Іст-Брансвіку, дзе разам з парафіянамі памаліўся за супакой душаў памерлых і акрапіў помнікі святой вадой.

*Серж Трыгубовіч*
*Фота аўтара*

## ДЗЯДЫ Ў НЬЮ-ЁРКУ



У нядзелю 1 лістапада беларуская грамада ў Нью-Ёрку адзначыла Дзень памяці продкаў – нашы традыцыйныя Дзяды. У Саборы Св. Кірылы Тураўскага пасля нядзельнай літургіі адслужылі паніхіду ў памяць памерлых – тых, хто аддаў свае жыцці ў змаганні за беларускую справу, хто загінуў у войнах, хто трапіў у жорны сталінскіх рэпрэсіяў, хто заўчасна адышоў праз наступствы Чарнобыля, каго загубіў сённяшні рэжым, хто апынуўся ў выгнанні і памёр на чужыне. Кожны з прысутных таксама згадваў пра свае страты блізкіх, сяброў і паплечнікаў і маліўся за супакой іх душаў.

Далей дзея працягнулася ў грамадскай зале, дзе была наладжана сумесная бяседа за сталом. Дзяліліся ўспамінамі, згадвалі, як адзначалі Дзяды на Бацькаўшчыне. Алена Рыдзеўская распавяла пра гістарычныя карані адзначэння Дня памяці продкаў. Ганна Сурмач згадала пра тое, што пяць гадоў таму ў такія ж сумныя лістападаўскія дні страціла маці, а перад гэтым і адзінага брата, і толькі тады зразумела, што сапраўднае развітанне з Радзімаю адбываецца, калі страчваеш там родных. Дзіяна Маракова, дачка Леаніда Маракова і радня рэпрэсаванага пісьменніка Валера Маракова, згадала, як было цяжка ёй слухаць ад настаўнікаў у школе пра тое, што Сталін быў вялікім дзеячам. Яе бацька шмат гадоў займаўся даследаваннем лёсаў рэпрэсаваных беларусаў. Алена Рыдзеўская паведаміла, што менавіта з кнігі Маракова яе сям'я даведалася пра лёс іхных блізкіх, што былі знішчаны падчас рэпрэсіяў. Госця з Польшчы, журналістка "Еўрарадыё" Анастасія Ільіна згадала, як адзначаліся Дзяды ў Берасці, адкуль яна родам. Ала Караткевіч нагадала, што беларусы ў Нью-Ёрку павінны памятаць у такі дзень і пра тых нашых папярэднікаў, якія арганізавалі беларускае жыццё, набылі маёмасць і стварылі ўмовы для нашага пакалення эміграцыі, цяпер наша задача – захаваць усё гэта.

У гэты сумны дзень усё ж разыходзіліся ў добрым настроі, што пабылі разам, разам адзначылі Дзяды і ўшанавалі памяць тых, каго ўжо няма з намі.

*Ганна Сурмач*

## БЕЛАРУСЫ МАЛДОВЫ: БАГАТЫ ЎРАДЖАЙ КУЛЬТУРНЫХ ПАДЗЕЙ

Восень прынесла беларускай дыяспары і ўсім аматарам беларускай культуры і мастацтва ў Малдове доўгачаканыя Дні культуры Беларусі, якія прайшлі з 30 верасня па 2 кастрычніка. Пасля фактычна дзесяцігадовага перапынку правядзенне Дзён культуры Беларусі ў Малдове было аднаўленае дзякуючы дамоўленасці, дасягнутай на пасяджэнні міжурадавай беларуска-малдаўскай камісіі па гандлёва-эканамічным супрацоўніцтве ў Мінску 15 ліпеня гэтага года.

У рамках Дзён культуры Беларусі ў Малдове адбылася сустрэча Міністра культуры Беларусі Барыса Святлова з кіраўнікамі грамадскіх аб'яднанняў беларускай дыяспары ў Малдове, якая прайшла ў памяшканні будучага Беларускага культурнага цэнтра, што ствараецца на базе беларуска-малдаўскага СП "Керамін-груп". Падымаліся пытанні аб дапамозе Міністэрства культуры РБ у правядзенні конкурсу на найлепшы праект дызайну інтэр'ера для будучага Беларускага культурнага цэнтра, аб падтрымцы ва ўсталяванні помніка Францыску Скарыну ў Малдове, аб дапамозе ў набыцці камплектаў нацыянальных беларускіх строяў для дзейнасці беларуска-малдаўскага этнічнага тэатра "Куфар", што створаны пры БКРМ (Беларускі культурны рух Малдовы) ды інш.

Яркімі пазітыўнымі ўражаннямі напоўнілі гасцей выдатны вернісаж габеленаў беларускіх майстроў "Каляровая нізка" і шыкоўны святочны канцэрт беларускага дзяржаўнага ансамбля народнай музыкі "Свята", які доўга не адпускалі бурнымі апладысментамі са сцэны Нацыянальнай філармоніі. Выступленне ансамбля народнай музыкі "Свята" таксама з бляскам прайшло ў паўночнай сталіцы Малдовы – г. Бельцы ў мясцовым Палацы культуры.

У Цэнтры культуры і мастацтва Odeon у Кішынёве ў межах Дзён культуры Беларусі ў Малдове цягам двух дзён адбываўся паказ беларускіх фільмаў. Гледачы ўбачылі карціны "Белыя росы. Вяртанне" і "Сляды апосталаў". Завяршыліся Дні беларускай культуры прэзентацыяй анімацыйных фільмаў студыі "Беларусьфільм" і паказам мастацкага кіно "Брэсцкая крэпасць", якое кранула да глыбіні душы кожнага гледача трагічнай і адначасова легендарна-гераічнай старонкай летапісу гісторыі беларускага народа.

Успамін пра цёплае свята роднай беларускай культуры будзе яшчэ доўга грэць сэрца ўсім беларусам Малдовы.

*Паводле Ганны Мазур*

## ПАЧАТАК СВЯТКАВАННЯ Ў ВЯЛІКАБРЫТАНІІ 500-ГОДДЗЯ БЕЛАРУСКАГА КНІГАДРУКАВАННЯ

17 кастрычніка Беларуская бібліятэка і музей імя Францішка Скарыны мела гонар вітаць намесніка дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Алеся Сушу – госця пачатку святкавання ў Вялікабрытаніі 500-годдзя беларускага кнігадруку. Спадар Суша сустрэўся з радай Скарынаўскай бібліятэкі і з беларускай супольнасцю Лондана.

Падчас сустрэчы з сябрамі Бібліятэчнай рады быў агучаны шэраг прапаноў па супрацоўніцтве паміж дзвюма ўстановамі для ўзаемнага пашырэння доступу да калекцый карыстальнікам у Беларусі і Вялікабрытаніі, алічбоўкі матэрыялаў з калекцыі Скарынаўкі, выставачнай дзейнасці, тэхналагічным садзейнічанні і магчымасці карыстання экспертнымі напрацоўкамі Нацыянальнай бібліятэкі. Наперадзе – багата карпатлівай працы, якая павінна прынесці добры плён.

Алесь Суша прывёз у падарунак для беларускай бібліятэкі ў Лондане першыя восем ужо надрукаваных тамоў факсімільнага ўзнаўлення ўсіх Скарынавых выданняў. Ён таксама расказаў пра запланаваную праграму святкавання юбілею беларускага кнігадрукавання ў Беларусі і замежжы.

Да падзеі была падрыхтавана невялікая, але захапляльная выстава выбраных старадрукаў, манускрыптаў і скарыназнаўчых выданняў, якія складаюць гонар Беларускай бібліятэкі і музея імя Францішка Скарыны, у тым ліку фрагменты Першай кнігі Царстваў (1518 г.), якія захоўваюцца тут. Гэтыя скарбы ўпершыню выстаўляліся разам.

Прыемным сюрпрызам для прысутных стала не падрыхтаваная загадзя, імправізаваная, але вельмі цікавая і натхняльная міні-экскурсія па выстаўленых экспанатах, якую зрабіў Алесь Суша.

Гэта была першая падзея ў рамках святкавання 500-годдзя беларускага кнігадруку ў Вялікабрытаніі. Рыхтуюцца іншыя падзеі, у тым ліку ў Брытанскай бібліятэцы і іншых знакавых бібліятэках краіны – з удзелам Беларускай бібліятэкі і музея імя Францішка Скарыны.

*Паводле Ігара Іванова*

## АДКРЫЦЦЁ ЗАЛЫ БЕЛАРУСКАЙ ДЫЯСПАРЫ Ў ПАСОЛЬСТВЕ БЕЛАРУСІ Ў РАСІІ

16 кастрычніка 2015 года ў Дзелавым і культурным комплексе Пасольства Беларусі ў Расіі (ДКК) адбылося ўрачыстае адкрыццё Залы беларускай дыяспары.

На пляцоўцы Залы беларускай дыяспары плануецца правядзенне курсаў па вывучэнні беларускай мовы, лекторыяў і семінараў па беларускай гісторыі, навуцы і культуры, рэалізацыя разнастайных творчых, дзелавых, навуковых мерапрыемстваў, канцэртных выступаў і мастацкіх выстаў, а таксама арганізацыя работы бібліятэкі.

У рамках адкрыцця адбылося падпісанне пагаднення паміж Пасольствам і Нацыянальным цэнтрам прававой інфармацыі Беларусі аб стварэнні на пляцоўцы ДКК Цэнтра прававой інфармацыі, які дае доступ да дзяржаўных інфармацыйна-прававых рэсурсаў; а таксама пагадненні з Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі аб стварэнні віртуальнай чытальнай залы, якая дае доступ да актуальных і сацыяльна значных матэрыялаў аб нашай краіне.

*Паводле embassybel.ru*

## ПРАФЕСАРУ АЛЯКСАНДРУ БАРШЧЭЎСКАМУ – 85



85-гадовы юбілей адзначыў 2 лістапада беларускі пісьменнік з Беласточчыны, даследчык беларускай літаратуры ды культуры Аляксандр Баршчэўскі (Алесь Барскі).

Алесь Барскі друкуецца з 1956 года. З'яўляецца аўтарам многіх паэтычных зборнікаў, універсітэцкіх падручнікаў, артыкулаў па гісторыі беларускай літаратуры ды перакладаў на польскую мову.

З 1993 года прафесар Аляксандр Баршчэўскі з'яўляецца таксама старшынёй Цэнтральнага камітэта алімпіяды па беларускай мове.

*Паводле "Беларускага Радыё Рацыя"*

# ЯК ДЗІСЕНКА-РЭЧКА ЎПАЛА Ў АТАВУ-РАКУ




У серыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны" пабачыла свет новая, 27-я кніга, – збор твораў Пятра С. Мурзёнка "Адвечныя плыні". Уклаў кнігу сын пісьменніка Пётра Мурзёнак, які жыве ў Канадзе. Аўтар твораў, што ўвайшлі ў кнігу, – Пётр Сільвестравіч Мурзёнак – нарадзіўся ў 1930 годзе ў Беларусі, у якой і пражыў большую частку свайго жыцця, настаўнічаў. Толькі ў 2003 г. ён з'ехаў у Канаду да сваіх дзяцей, дзе таксама працаваў настаўнікам разам з жонкай Данатай Генрыхаўнай у суботняй беларускай школе ў Атаве.

Першая кніга Пятра Сільвестрававіча нарадзілася менавіта ў Канадзе, у 2008 годзе, калі аўтару было 78 гадоў. У зборнік, які атрымаў назву "Над Дзісенкай ракой", увайшлі ўспаміны аўтара пра жыццё ў Беларусі – ад самага нараджэння да ад'езду за мяжу. "Адвечныя плыні" – другая кніга аўтара, якая выйшла ўжо пасля смерці Пятра Сільвестравіча (яго не стала ў 2010 годзе). Кніга ўтрымлівае раней не публікаваныя ўспаміны пра жыццё ў Канадзе, якія мелі сугучную назву "Над Атавай ракой". Акрамя гэтага, у кнізе змешчаная нізка апавяданняў для дзяцей, навелы і апавяданні з жыцця і гістарычныя аповесці. Апошнюю частку кнігі склалі артыкулы, апублікаваныя ў газеце "Беларус", ды ліставанне аўтара.

Кніга "Адвечныя плыні" аздобленая каляровымі здымкамі з сямейнага архіву.

*Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

# "ГІСТОРЫЯ ПАВАЕННАЙ РАДЫ БНР ЦЯПЕР НАПІСАНАЯ": ВЫЙШАЎ ТРЭЦІ ТОМ ДАКУМЕНТАЎ БЕЛАРУСКАГА ЎРАДУ Ў ВЫГНАННІ




У заснаванай Згуртаваннем беларусаў свету "Бацькаўшчына" кніжнай серыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны" выйшла 28-я кніга – "Рада БНР 1982–1997. Падзеі, дакументы, асобы". Яна стала працягам супольнай працы архівістаў Лявона Юрэвіча і Наталлі Гардзіенка, якія два гады таму сабралі пад адной вокладкай дакументы, датычныя дзейнасці Рады БНР часоў Міколы Абрамчыка, а летась выдалі аналагічны збор дакументаў, звязаных з беларускім дзяржаўным прадстаўніцтвам у выгнанні часоў кіравання Вінцэнта Жук-Грышкевіча.

Новае выданне ахоплівае перыяд, калі Радай БНР кіраваў Язэп Сажыч. Гэта быў цяжкі перыяд неадназначнасцяў, калі ўрады суседніх народаў на эміграцыі перасталі існаваць. Гістарычны нарыс, якім адкрываецца кніга, абмалёўвае варункі, у якіх працаваў беларускі ўрад у выгнанні, паказваючы як міжнародную сітуацыю ды знешнепалітычную дзейнасць Рады, так і яе ўнутраныя справы ды праблемы.

Збор дакументаў склалі пратаколы, ліставанне, бібліяграфія, біяграфічныя нарысы, хроніка дзейнасці, іншыя дакументы Рады БНР. Выданне аздобленае архіўнымі здымкамі.

Наталля Гардзіенка тлумачыць, што гэты том не быў запланаваны ад пачатку, але ён мусіў з'явіцца, каб стаць лагічным завяршэннем папярэдніх выданняў: "Спачатку мы не думалі рабіць трэцюю кнігу, бо перыяд прэзідэнцтва Язэпа Сажыча – самы невыразны ў гісторыі Рады БНР. За выняткам аднаго–двух радных у гэты час, большасць была бяздзейная. Такая бяздзейнасць адбілася і ў дакументах, у адсутнасці публікацый пра Раду ў перыёдыках, у тым ліку ў газеце "Беларус". Аднак пасля заканчэння другой кнігі мы вырашылі, што гісторыя патрабуе завяршэння, і будзе лагічна напісаць яго зыходзячы з тых дакументаў, якія мы здолелі сабраць. Так ці інакш, гісторыя паваеннай Рады БНР цяпер напісаная. А наступны том, прысвечаны старшынёўству Івонкі Сурвіллы, – справа ўжо не гісторыкаў, а палітолагаў".

Кніга "Рада БНР 1982–1997. Падзеі, дакументы, асобы" выдадзеная Згуртаваннем "Бацькаўшчына" сумесна з Беларускім інстытутам навукі і мастацтва ў выдавецтве "Кнігазбор".

*Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

ВІНШАВАННІ

# ВІНШАВАННЕ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ



Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сяброў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", якія нарадзіліся ў лістападзе: **Антонія Бокуна, Генадзя Вінярскага, Анатоля Вярцінскага, Юрася Меляшкевіча, Мілану Міхалевіч** (Беларусь), **Святаслава Логіна** (Канада).

Зычым шаноўным імянніннікам жыццёвай радасці і сілаў, аптымізму, плёну ў працы і людской спагады!

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## У Нью-Ёрку адзначылі 65-годдзе газеты беларусаў ЗША

У нядзелю 25 кастрычніка свой 65-гадовы юбілей адзначала газета беларускай дыяспары ў Амерыцы — ”Беларус”. Першы нумар газеты выйшаў у Нью-Ёрку 20 верасня 1950 года. Залажыла выданне, створанае паваеннай эміграцыяй ў 1949 годзе, Беларуска-Амерыканскае Задзіночанне (БАЗА).

Газета цалкам выдаецца на ахвяраванні сваіх чытачоў і рыхтуецца рэдакцыйнымі калектывамі цягам усіх гэтых гадоў на грамадскіх пачатках. Да сённяшняга часу ў свет выйшла 616 нумароў.

”Беларус” — адно з найстарэйшых перыядычных беларускіх выданняў у замежжы. Яно адлюстроўвае не толькі жыццё амерыканскіх беларусаў, але і дае інфармацыю пра беларускія асяродкі ў іншых краінах, а таксама і пра навіны з Бацькаўшчыны. Ад пачатку і да сёння газета трымаецца ў сваім змесце патрыятычных поглядаў, падтрымлівае ідэю дзяржаўнай незалежнасці Беларусі, ідэі дэмакратыі і свабоды, прапаганды і абароны беларускай культуры і мовы.

Юбілейная імпрэза адбылася ў Беларускім цэнтры на Атлантык Авеню, 401 у Нью-Ёрку. Ганаровым госцем і асноўным прамоўцам быў Вітаўт Кіпель, які шмат гадоў супрацоўнічаў з газетаю разам з жонкаю Зораю і блізкімі паплечнікамі. Сп. Кіпель зачытаў вітальны ліст ад Янкі Запрудніка, які цягам 15 гадоў быў галоўным рэдактарам, але ў гэты дзень не здолеў прыйсці на юбілей. Ад імя цэлай сваёй адданай беларускай справе вялікай сям'і сп. Вітаўт зрабіў сапраўды ”царскі” падарунак газеце — ахвяраванне на 1 тыс. дал.

Сучасны галоўны рэдактар газеты Ганна Сурмач зачытала атрыманыя віншаванні з юбілеем — ад Івонкі Сурвіллы — старшыні Рады БНР, ад Згуртавання беларусаў свету ”Бацькаўшчына”, ад Згуртавання беларусаў Канады і Парафіі Св. Кірылы Тураўскага з Таронта, ад Валеры Барташа з Севастопаля. Яна таксама згадала гісторыю выдання, кожнага з ягоных папярэдніх галоўных рэдактараў, прадэманстравала першы нумар газеты і запрасіла прысутных азнаёміцца з падрыхтаванай у зале выставай.

Сябра Рэдакцыі Тацццяна Красоўская распавяла, як даносіцца газета да чытачоў, зачытала некаторыя атрыманыя лісты са словамі падзякі. Сябра Рэдакцыі Мікола Шыдлоўскі заклікаў прысутных больш актыўна супрацоўнічаць з газетаю, падаваць свае допісы. Расціслаў Гарошка як адзін з найстарэйшых чытачоў газеты пажадаў выданню поспехаў, каб яно працягвала жыць у будучыні.

Імпрэза скончылася ўспамінамі пра розныя адметныя моманты ў жыцці газеты, смешныя выпадкі. Так, сп. Гарошка нагадаў, як жонка аднаго з былых рэдактараў газеты цягам 20 гадоў – Станіслава Станкевіча – прасіла сяброў на нейкім сходзе БАЗА: “Не адбірайце ў яго газэту, бо ён памрэ”. Дзякуючы такім вось энтузіястам і дажыў ”Беларус” да гэтага паважнага 65-гадовага веку.

*Паводле Ганны Сурмач*

## Святлана Алексіевіч атрымала Нобелеўскую прэмію

8 кастрычніка Святлана Алексіевіч стала першай беларускай, якая атрымала Нобелеўскую прэмію! Згуртаванне ”Бацькаўшчына” і ўся кампанія “Будзьма беларусамі!” віншуе пісьменніцу!

“Мы чакалі гэтай падзеі, гэтага свята даўно – з часоў, калі на прэстыжную Нобелеўскую Прэмію былі намінаваныя Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, Уладзімір Някляеў. Шчыра рады за Святлану Аляксандраўну. Віншую яе і ўсіх беларусаў! — кажа старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч. – Гэтая прэмія – ацэнка ўсёй беларускай літаратуры, якая, на мой погляд, з'яўляецца самай цікавай ва Усходняй Еўропе. І, думаю, што Прэмія прыцягне ўвагу да ўсёй беларускай літартуры і культуры. Да Беларусі агулам”.

“Прысуджэнне выглядае невыпадковым і заслужаным, – каментуе Старшыня Беларускага ПЭН-цэнтра Андрэй Хадановіч. – Аўтарка ішла да свайго галоўнага поспеху доўга, атрымаўшы ўсе магчымыя еўрапейскія ўзнагароды. Шмат хто з беларускага істэблішменту панервуецца і пазайздросціць, сёй-той скажа пра несправядлівасць Нобеля для Беларусі, уручаны рускамоўнай пісьменніцы, але факт ёсць фактам: Святлана Алексіевіч — найбольш вядомая (скажам праўду: адзіная сусветна вядомая) беларуская пісьменніца. Таму сам шчыра віншую спадарыню Святлану і думаю, што і ў беларусаў ёсць нагода для радасці”.

*Паводле budzma.by*

## Выйшаў 9-ты нумар літаратурнага альманаха “Беларус”

Выйшаў з друку чарговы, дзявяты па ліку, нумар штогадовіка беларускіх пісьменнікаў замежжа “Беларус”. У яго ўвайшлі творы 25 аўтараў з 10 краінаў.

Нумар адкрываецца перакладам народнага квебецкага падання “Лятучы човен”, які зрабіла Ірыны Варабей з Таронта. Таксама ў нумары ёсць пераклады, зробленыя Віталём Воранавым (творы Сэмюэля Бэкета і Рэйманда Карвэра), Якубам Лапаткам (Дон Кіхот Сервантэса), Алегам Мінкіным (вершы Паўла Грабоўскага), Віялетай Кавалёвай (творы Маргарэт Этвуд).

Багата ў свежым нумары “Беларуса” ўспамінаў: са сваімі згадкамі чытачоў знаёмяць Марыя Дэмковіч, Цімох Ліякумовіч, Валянцін Стэх, Дзмітры Шатыловіч ды Валянціна Якімовіч. І, натуральна, у часопісе вы зможаце пазнаёміцца з паэтычнымі творамі і прозай беларусаў замежжа, сярод якіх Сяржук Вітушка, Пётра Мурзёнак, Эмігідыюш Рыжы, Алег Мінскі, Валянцін Стэх, Іна Снарская, Юрась Міхед, Зянон Пазьняк ды іншыя.

Ужо цяпер збіраюцца матэрыялы для наступнага нумару часопіса “Беларус”, выхад якога чакаецца ў верасні 2016 года.

Беларусы замежжа могуць дасылаць свае творы ў рэдакцыю да 1 чэрвеня 2016 года на эл. адрас **zamova@e-krama.com**. Замовіць часопіс можна праз гэты ж адрас.

Калі ў вас няма доступу да інтэрнэту, то творы можаце запісаць на дыск і дасдаць на адрас:

**Marat Klakotski**
**P.O. Box 3225**
**Farmingdale, NY 11735**
**USA**

На гэты ж адрас можна адправіць свой рукапіс.

Прыемнага чытання!

*Інфармацыйны цэнтр МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”*

## Удзячнасць БІНіМа — Ганне Запартыка

6 кастрычніка 2015 г. на XIII Архіўных чытаннях трэці раз была публічна абвешчаная ўдзячнасць ад Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку.

Створаны ў 1951 г. эмігрантамі-інтэлектуаламі на Захадзе БІНіМ з 2013 г. штогод выказвае публічную ўдзячнасць асобам, якія зрабілі заўважны ўнёсак у публікацыю і папулярызацыю эміграцыйнай спадчыны.

Сёлета ўдзячнасць ад БІНіМа была выказаная чалавеку, які цягам некалькіх дзесяцігоддзяў спрыяў захаванню эміграцыйнай дакументальнай спадчыны, вяртанню яе ў Беларусь, пры падтрымцы якога была заснаваная навукова-творчая ініцыятыва “Цэнтр камплектавання і вывучэння дакументальнай спадчыны беларускага замежжа”, — дырэктару Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Ганне Вячаславаўне Запартыка.

*Паводле Наталлі Гардзіенка*

## У ЛОНДАНЕ ПАМЁР ПРАФЕСАР АНДЖЭЙ ЦЕХАНАВЕЦКІ



Беларусіст, вялікі сябар Беларусі, кавалер Ордэна Францішка Скарыны, ганаровы сябар Беларускага ПЭН-цэнтра Анджэй Цеханавецкі памёр у Лондане на 92-м годзе жыцця.

Анджэй Цеханавецкі — выбітны навуковец, нашчадак князёў Мсціслаўскіх і Заслаўскіх, беларусіст, гісторык мастацтва, мецэнат, грамадска-культурны дзеяч, заснавальнік Фундацыі Цеханавец-кіх у Варшаве.

Нарадзіўся 28 верасня 1924 года ў Варшаве.

Вёў шырокую грамадска-дабрачынную дзейнасць, мае шэраг высокіх узнагарод. Аўтар кнігі "Міхаіл Казімір Агінскі і яго "сядзіба музаў" у Слоніме".

Ганаровы старшыня польска-беларускай камісіі па справах агульнай культурнай спадчыны, ганаровы маршалак Згуртавання беларускай шляхты, ганаровы сябар Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў і Інстытута беларускай гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

Віцэ-прэзідэнт Англа-беларускага таварыства ў Лондане.

Анджэй Цеханавецкі падараваў Беларусі слуцкі пояс, рэдкія кнігі і рарытэты з радзівілаўскай калекцыі, клапаціўся пра палац у вёсцы Бачэйкава Бешанковіцкага раёна на Віцебшчыне, дзе некалькі стагоддзяў жыў ягоны род.

Светлая памяць і мір яго душы!

*Паводле "Радыё Свабода"*

## ПАМЯЦІ РАМАНА ЛУБКІЎСКАГА



Як паведаміла Сяргею Панізніку львоўская паэтка Яраслава Паўлычка, дарогай да Львова раптоўна памёр украінскі паэт, сябра беларусаў, Раман Лубкіўскі. Ён вяртаўся з сяла, дзе меў хату, - там ён пісаў і адпачываў.

Паэт, перакладчык, крытык, культуролаг, дзяржаўны і грамадскі дзеяч, дыпламат. Лаўрэат Нацыянальнай прэміі Украіны імя Т. Шаўчэнкі. Адзін з заснавальнікаў Міжнароднага фонду Янкі Купалы.

Вершы Р. Лубкіўскага ў перакладзе на беларускую мову змешчаны ў анталогіі "Украінская савецкая паэзія" ("Мастацкая літаратура", 1975). У серыі "Паэзія народаў СССР" выдадзены яго зборнік "Пялёсткі святла" (Мастацкая літаратура", 1990) — у перакладах Р. Барадуліна, Г. Бураўкіна, С. Законнікава, В. Зуёнка, В. Коўтун, Я. Сіпакова.

Перастварэнні вершаў дваццаці беларускіх аўтараў змясціў Р. Лубкіўскі ў сваім зборніку "Слов"янське небо" (Львоў, 1972), дзе прадстаўлены дзевяць моўных еўрапейскіх стыхій. Для кнігі "Слов'янська ліра" (Кіеў, 1983) ён пераклаў паэтычныя творы з адзінаццаці славянскіх моваў. Першы з пятнаццаці беларускіх аўтараў, як і ў папярэднім зборніку – Францыск Скарына.

Р. Лубкіўскі быў укладальнікам кнігі "Максим Боданович. Стратим-Лебідь" (Львоў, 2002), а таксама "Шевченкова дорога в Білорусь" (Львоў, 2004). Ініцыяваў выданне кнігі Багдана-Ігара Антоныча "Зялёнае Евангелле" (Львоў, 2011) на ўкраінскай і беларускай мовах. Творы класіка Б.-І. Антоныча (1909—1938) пераклалі Э.Акулін, М. Аляхновіч, Р. Барадулін, С. Законнікаў, В. Зуёнак, С. Панізнік, В. Рагойша.

Старонкі празаічных накідаў паэта пераклала Т. Кабржыцкая.

Наш львоўскі сябар з творчымі візітамі часта наведваў пад сузор'ем Ліры беларускія прасторы.

*Паводле Сяргея Панізніка*

## КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА ЛІСТАПАД 2015 ГОДА

1 лістапада – 100 гадоў таму, у 1915 годзе, нарадзіўся Міхась Кавыль (сапр. Язэп Лешчанка), паэт, дзеяч эміграцыі ў ЗША.

2 лістапада – Дзяды, дзень памінання памерлых.

6 лістапада – 75 гадоў таму памёр Лявон Вітан-Дубейкаўскі (1869 (1967?) – 1940), дзеяч нацыянальнага руху, паэт, дойлід, будаўнік. Пахаваны на могілках Росы ў Вільні.

6 лістапада – 35 гадоў таму ў Нью-Ёрку (ЗША) памёр Станіслаў Станкевіч (1907–1980), грамадска-культурны дзеяч, літаратуразнавец, публіцыст, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

6 лістапада – 15 гадоў таму ў Мінску памерла Стэфанія Станюта (1905–2000), актрыса.

7 лістапада – 125 гадоў таму, у 1890-м, нарадзіўся Ігнат Жаўняровіч, грамадска-культурны дзеяч, каталіцкі святар, вязень ГУЛАГу. Памёр у ссылцы ў Казахстане (жнівень 1937 г.).

12 лістапада – 95 гадоў таму нарадзіўся Валерый Навіцкі (да 1945 г. – Валянцін Новік; 1920–2001), грамадска-культурны дзеяч, дзеяч эміграцыі ў Канадзе.

15 лістапада – 30 гадоў таму памёр Аляксандр Калодка (1911–1985), праваэнавец, вязень фашысцкіх канцлагераў, дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі. Пахаваны на беларускіх могілках Фолкнер у Мельбурне.

16 лістапада – Дзень Маці Божай Вострабрамскай — апякункі Беларусі.

16 лістапада – 110 гадоў таму нарадзіўся Ян Скрыган (1905–1992), пісьменнік, перакладчык, вязень ГУЛАГу.

16 лістапада – 90 гадоў таму нарадзіўся Кастусь Акула (1925–2008), няўтомны арганізатар жыцця Згуртавання беларусаў Канады, чалец БКА, пісьменнік, драматург.

20 лістапада – 30 гадоў таму ў Беластоку (цяпер Польшча) памёр Юрка Геніюш (1935–1985), пісьменнік і публіцыст.

22 лістапада – 85 гадоў таму нарадзілася Вера Бартуль (дзяв. Касцюкевіч; 1930–2006), дзеяч эміграцыі ў Вялікабрытаніі і ЗША.

26 лістапада – 130 гадоў таму ў Канстантынопалі памёр Адам Міцкевіч (1798–1885), польскі паэт, цесна звязаны з Беларуссю, асветнік, філамат. Спачатку пахаваны ў Парыжы. 4 ліпеня 1890 г. перапахаваны ў Вавельскім замку ў Кракаве.

26 лістапада – 85 гадоў таму ў Оршы нарадзіўся Уладзімір Караткевіч (1930–1984), беларускі пісьменнік.

27 лістапада – 95 гадоў таму, у 1920-м, пачалося антысавецкае Слуцкае паўстанне (Слуцкі збройны чын) (доўжылася да 28 снежня 1920 г.). Першы Слуцкі полк БНР уступіў у бой з бальшавікамі за незалежнасць Беларусі. Нацыянальны Дзень Герояў.

**Беларусы ў свеце**
№ 10 (162), кастрычнік 2015

Інфармацыйны бюлетэнь МГА "ЗБС "Бацькаўшчына". Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.
Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – А. Башарымава.
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская.
Наклад 250 асобнікаў.

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906,
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb.minsk@gmail.com

тэл./факс (+375 17) 200-70-27